БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# МІКОЛА ЗАСІМ

## ВЕРШЫ

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1973

# НА ДОЎГІ ВЕК

Бег часу адносіць і аддаляе сучаснікаў ад Міколы Арцёмавіча Засіма (19/XI 1908—19/VII 1957), але з перспектывы гэтага аддалення ўсё ясней вырысоўваюцца сапраўдныя каштоўнасці яго твораў. Другое, пасмяротнае выданне паэзіі Засіма, якое трымае ў руках чытач, зноў пацвярджае, што паэт паспяхова праходзіць пробу на даўгавечнасць. Адначасна гэта проба на якасць: доўга жывуць у літаратуры творы праўдзівыя і таленавітыя.

Праўдзівасць, вернасць жыццю была асноўным клопатам і пакутай Міколы Засіма. Ён мог бы сказаць пра сябе словамі Якуба Коласа:

А праўда мне ўсяго даражай,
І бацька праўдзе вучыў змала,
Дык з гэтай праўдай пойдзем далей...

Ісці было не лёгка. І ён ішоў, хоць пошукі праўды, сцверджанне праўды часта вымагалі не проста дапытлівасці, а перад усім сумлення і грамадзянскай мужнасці. Ва ўмовах Заходняй Беларусі, дзе пачаў з 1926 года друкавацца паэт, праўда мела чырвоны рэвалюцыйны колер. Сказаць праўду ў тую пору азначала задзець несправядлівы і аблудны парадак жыцця, устаноўлены польскаю буржуазіяй на беларускіх землях. Рана перакана-

ся ў гэтым сын беднага селяніна з вёскі Шэні, што на Пружаншчыне. Семнаццацігадовым юнаком ён трапляе пад арышт. На нарах пружанскай «казы» Мікола Засім склаў першыя вершы. Адзін з іх шчасліва захаваўся і данёс нам тыповую рысу яго паэтычнага дару: уменне бачыць праўду часу ў вострых сатырычных сітуацыях, у парадаксальных недарэчнасцях, да якіх панскі рэжым часта даводзіў чалавечыя ўзаемаадносіны. Малады палітвязень гратэскава абмалёўваў свой турэмны дзень:

Маю я пакой асобны,
Гардэробу шмат:
Нары, столічак свабодны —
Проста як магнат!
Спаць паложаць,
Збудзяць рана,
Есці паднясуць
І на шпацыр пад ахранай,
Як туза, вядуць.

Ужо на пачатку сваёй літаратурнай дарогі Засім дайшоў да ісціны, што мастацкі твор складаецца не проста са слоў, а з жыццёвага лёсу самога аўтара і яго чытача. Каб пісаць і ўзрушыць напісаным, спярша трэба здабыць права на слова ў той грамадскай барацьбе, якую вядзе народ-чытач. Засім сумленна прытрымліваўся гэтага прынцыпу, таму хоць не шмат напісаў за паўтара дзесятка гадоў да вызвалення Заходняй Беларусі, але напісанае было праўдзівым і самабытным.

Характэрнаю стылявою рысаю паэзіі Засіма стала калектыўнасць пачуццяў і адкрытая гутарковасць. Лірычны герой у яго вершах гутарыць з сялянамі-землякамі як свой чалавек са сваімі людзьмі, ён узбуджаецца і разварушвае «масавыя» пачуцці слухачоў, весяліць іх і вучыць прыкмячаць у смешным сур'ёзнае, балючае, палкае. Паэтычны дыялог у Засіма нясе адбітак спецыфічнай для палескага сяла атмасферы абшчыннай калектыўнасці духоўнага жыцця, традыцыйнай маральнасці, якая рэгулюецца звычаямі і абрадамі. У старой вёсцы занята духоўнаю працай уся грамада, і паэт адчувае сябе толькі запявалам. Яго слухачы выступаюць і крытыкамі, і памочнікамі. Кожны з іх пачувае абавязак не толькі пахваліць або зганіць твор, але і падказаць, уставіць ямчэйшае слова ці невядомы аўтару факт. І паэт не мае права крыўдавацць за такое ўмешванне ў яго творчую справу, бо гэта агульная справа — яго і слухачоў. Наадварот, ён удзячны ім, бо іх зацікаўленасць — адзіны стымул яго творчасці. Да канца дзён захаваў паэт патрэбу такой злітнасці. У пісьме да аднаго пачаткоўца ён раіў не расчароўвацца тым, што твораў не друкуюць: «Я быў рады сваім вершам, калі пры панскай Польшчы чытаў іх рабочым у тартаку ці на лесасеках, не друкуючы іх. Так і Вы не замыкайцеся ў шкарлупу, а дзяліцеся напісаным з сябрамі-аднавяскоўцамі. Тады лягчэй будзе на сэрцы і вершы атрымаюцца лепшыя».

Створанае Засімам да верасня 1939 г. арганічна ўвайшло ў скарбніцу літаратуры Савецкай Беларусі, бо яго творы спарадзіла народная мара пра ўз'яднанне ў адзінай сацыялістычнай сям'і. Пасля здзяйснення гэтай мары перад паэтам устала новая задача: ісці далей у агульным страі савецкай літаратуры, спасцігаць новую яву сацыялізма. Цяпер праблема праўды ўпіралася не ў грамадзянскую смеласць або сумленне (жыццё стала свабодным і сумленным), яна ўпіралася ў майстэрства, у прафесійную культуру творчасці. Мікола Засім гэта ўцяміў. На яго перадваенных творах ясна відаць сляды вучобы ў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі і іншых савецкіх паэтаў. Спачатку вучоба як бы некалькі прыглушыла арыгінальнасць стылю, затое павысілася культура слова і тэхніка верша, паменшыла дыялектызмаў, макаранізмаў і прыёмаў балагурства ў гумарыстычных творах. У 1940 годзе М. Засім прымаецца ў Саюз савецкіх пісьменнікаў. Усё гэта было добраю зарадкай перад вялікім жыццёвым і творчым выпрабаваннем, якое прынесла паэту вайна і фашысцкая акупацыя.

Як старшыня Шэнеўскага сельсавета Мікола Засім з першых дзён акупацыі перайшоў на нелегальнае становішча, знайшоў сувязь з антыфашысцкім падполлем, якое арганізоўвалі на Брэстчыне па заданню ЦК КПБ і ўрада Савецкай Беларусі Язэп Урбановіч і Іван Жышко. Вясною

1942 года ён уступіў у партызаны, удзельнічаў у дыверсіях і баях. Кароткія перапынкі паміж паходамі сталі для паэта творчым часам.

У Засіма быў тоўсты сшытак у чорных каленкоравых вокладках, ён насіў яго ў палявой сумцы, а ў часе блакад хаваў у бацькаву шпакоўню на бярэзіне. Паэт заносіў у гэты сшытак радкі, якія часта прыходзілі на думку на маршы. Паэтычны дзённік Засіма пакрыўся бурымі падцёкамі ад балотнай вады і поту, напісаныя хімічным алоўкам словы парасплываліся, але яны чытаюцца. Многія вершы гэтага унікальнага паэтычнага дакумента трапілі ў зборнікі, іншыя чакаюць свайго часу. Ніводзін паэт у Беларусі не адлюстраваў партызанскай эпапеі ад яе пачатку да канца паводле ўласных непасрэдных уражанняў і перажыванняў, як гэта давялося зрабіць Міколу Засіму.

У яго вершах вострым болем адгукнуліся першыя месяцы вайны і нечаканага адступлення нашай арміі, забойным смехам і гневам заклеймаваў паэт антысаветчыкаў, што, нібы пацукі, ноччу вылазілі са сваіх нораў і станавіліся фашысцкімі паслугачамі. Але найбольшае месца заняла тэма пакуты народа і бяспрыкладнае ўсенароднае змаганне супраць смяротнага ворага:

Распухла зямліца
Ад людскіх магіл,
На сонца дзівіцца
Праз дым няма сіл.

Паэт у самым віры трагічных падзей. Фашысты расстралялі яго старых бацькоў, вывезлі ў няволю сястру. Але знаходзіў сілы народ, не зламаў яго волю фашысцкі тэрор, лавінаю ішлі вясковыя дзяцюкі і дзяўчаты ў партызаны. Хлопцы адной толькі вёскі Бярэзніца Ружанскага раёна ўтварылі цэлую роту ў атрадзе імя Кірава. Дрыжаць акупанты, са страхам вымаўляюць слова «партызан». Баявое братэрства памагае паэту пераадолець боль трагічных пакут:

Не застрашыце нас, каты,
Ні расстрэлам, ні пятлёю,
За кроў маткі, за кроў таты,
Сваю помсту я утрою.

А калі загіну ў бойцы,
Дык такі я не адзін.
Будзе помсціць вам, забойцы,
Друг мой — іншай маткі сын.

Партызанскія вершы Засіма праўдзівыя аж да наіўнасці. У яго сужываецца баявы гімн, узнёслыя заклікі да змагання, клятва на вернасць радзіме і сябрам з эпітафіямі на магілы загінуўшых герояў і гратэскавымі карыкатурамі на фашысцкіх злачынцаў, эдзеклівымі прыпеўкамі пра норавы ў варожым кодле. Несамавітае суседства кантрасных кампанентаў аб'ядноўваецца ў адно цэлае нейкаю своеасабліваю праматою народна-сялянскага, бясхітраснага, сумленнага і ў грунце глыбокачалавеч-

нага ўспрымання свету. Прынесены фашыстамі крывавы «новы парадак» пераўзыходзіў парадоксамі ўсё, што магла бачыць Брэстчына ад няпомных часоў. Незраўнанай па сваёй мужнасці і гераізму была вайна супраць фашысцкага ўладарніцтва. Партызанскія вершы М. Засіма — гэта цэлы летапіс бяспрыкладнага ўсенароднага гераізму, помнік партызанам, якія здолелі заняць раённы цэнтр Косава і трымаць яго ледзь не месяц у сваіх руках, помнік тым ахвярным маці-патрыёткам, што насілі міны ў варожыя гарнізоны, абвярнуўшы дынаміт пялёнкамі ля ножак сваіх немаўлят, тым пасівелым бабулям, што кармілі, абшывалі і абмывалі, старажылі сон незнаёмых лясных хлопцаў, як сваіх родных сыноў і ўнукаў.

Пасля вызвалення Брэстчыны ад акупантаў Мікола Засім працуе ў савецкіх установах на Пружаншчыне, канчае Вышэйшую партыйную школу, пераходзіць на працу ў абласную газету «Заря», супрацоўнічаць у якой пачаў яшчэ ў партызанах як інструктар Антыфашысцкага камітэта. Паэт увайшоў у прафесійную літаратуру, у 1947 г. ён выдаў зборнік вершаў «Ад шчырага сэрца», у 1954 — «Вершы», яго творы сталі перакладаць на рускую мову Міхаіл Луконін і Аляксандр Твардоўскі. Многа сіл аддае паэт выхаванню творчай моладзі на Брэстчыне, з'яўляючыся старшынёю абласнога літаб'яднання.

Паэзія Засіма пасляваенных гадоў азорана ра-

дасцю перамогі, гордасцю за свой народ, які не скарыўся перад ворагам, удзячнасцю савецкім народам, якія дапамаглі вызваліць наш край і залечваць раны вайны:

Масква, Масква, мая ты маці,
Ў хвіліну гора і тугі
Умела ты адна натхняці
Крышыць няволі ланцугі.

І не знайсці цяпер нам хаты
Над Бугам, Нёманам-ракой,
Дзе беларусы дум крылатых
Не спалучалі бы з Масквой.

У другой палавіне пяцідзесятых гадоў перад нашай паэзіяй узнікла не лёгкая праблема — рашуча паглыбіць эстэтычныя сувязі з жыццём, далей пранікаць у духоўны свет савецкага чалавека, паўней выяўляць багацце і харагство душы будаўніка камунізма. Засім успрыняў гэту задачу вельмі асабіста, адчуў усю цяжкасць яе. Гэта лішні раз пацвярджала арганічнасць яго сувязі з жыццём.

Творчыя ўдачы ва ўмовах павышанай патрабавальнасці пачалі прыходзіць да Засіма радзей. Зрэшты, не да аднаго яго. Але ён, адчуваючы сябе самавукам на Парнасе, неяк лішне бурна ўстрывожыўся за свой літаратурны лёс. Прывыкшы тварыць у непасрэдным кантакце са слухачом-чытачом, бачыць у слухачу саўдзельніка творчасці, паэт пачынае крыўдаваць на, як яму здавала-

ся, халоднасць новага гарадскога асяроддзя, ёнважыцца то вяртацца ў сяло, то ехаць вучыцца ў Літаратурны інстытут, шукае падтрымкі і парады ў сяброў па пяру. Ад іх прыходзілі пісьмы з добрымі парадамі і прамыя пацвярджэнні дружбы: «Чалавеку пасля сарака гадоў трэба вучыцца самастойна, а не пераходзіць у больш ранні ўзрост». (А. Твардоўскі); «Вам дадуць работу ў раёне — раю ехаць. Працуйце і пішыце». (П. Броўка); «У канцы снежня прыедзь у Мінск. Я таксама там буду, і тады ты ўведаеш, друг я табе ці не». (А. Чарнышэвіч); «У нядзелю — 13 снежня — я хачу адсвяткаваць гэтае паўвека і таму прашу, каб ты прыехаў на вячэру. Буду чакаць». (П. Пестрак). Але жыццё ўжо створана так, што самыя адказныя рашэнні кожны чалавек павінен прымаць сам і мусіць несці асабістую адказнасць за іх. Засім задоўга заставаўся на ростані.

Яму станавілася цяжка сунімаць хаос асабістых пачуццяў, прабівацца да той прасветленасці духу, якая была сапраўдным натхненнем, напружаннем стваральных сіл душы. Натхнёнасць прыходзіла тады, калі пачуцці незадаволенасці блізкім акружэннем і сабою пагашаліся, калі вярталася адчуванне сваёй прыналежнасці да вялікай літаратуры як агульнанароднае справы. Тады рука крэсліла сапраўды ўзрушаныя і высакародныя словы любові да роднай зямлі. Паэт пеў гімн яе росквіту, яе будучыні:

Павер мне, мой бацькоўскі краю,
Як песні пра цябе пяю,
Здаецца мне — я засяваю
Насеўкам родную зямлю.

Мая ты родная зямліца!
Хто палюбіў цябе навек,
Таму ты — творчасці крыніца,
І той — шчаслівы чалавек.

Менавіта такім, узрушана-заклапочаным, усхваляваным і шчодрым жыве сёння паэт, чалавек, змагар Мікола Засім. Жыве не толькі на Пружаншчыне і не толькі на Палессі — жыве ў шырокім свеце нашай беларускай савецкай культуры. Родная зямліца надарыла яго даўгалеццем.

*Ул. Калеснік*

# РОДНАЯ ЗЯМЛІЦА

Мая пружанская зямліца!
Тваё палі і сінь нябёс
Мне будуць бачыцца і сніцца,
Куды б мяне ні кінуў лёс.
І хоць мне добра жыць у Брэсце,—
Ад працы й тут я не ўбаку,—
Ды дум маіх мне не адвесці —
Яны у «Ленінскім шляху»,
На тых палях, дзе я радзіўся,
Касіў чужую сенажаць,
Дзе потам першы раз умыўся,
Як памагаў каню араць,
Дзе зараз друг мой на машыне
Арэ калгасныя палі,
Дзе голаду няма ў паміне
І дзе багатыя працадні.
Павер мне, мой бацькоўскі краю,
Як песні пра цябе пяю,
Здаецца мне — я засяваю
Насеўкам родную зямлю.
І словы-зярняткі глыбока
Кладуцца ў свежую раллю,
І ты жывым іх поіш сокам,
Гадуеш песню ты маю.

Мая ты родная зямліца!
Хто палюбіў цябе навек,
Таму ты — творчасці крыніца,
І той — шчаслівы чалавек.

*15/I 1954 г.*

# МАЛІТВА СТАРОЙ БАБУЛЬКІ ПРЫ ПАНСКАЙ ПОЛЬШЧЫ

Божа, божа мой высокі,
Чуй маё маленне:
Па капе не шлі што року
Ты мне «упамненняў»*.

Я старая, што то значыць
Дзень, другі спазнення?
А ты прэш ужо, як бачыш,
Трутня з «упамненнем».

Божа, божа ўсемагутны,
Пашкадуй «авечку»,
З «упамненнем» не шлі трутняў,—
Шчэ пастаўлю свечку.

*1928 г.*

* Напамінак аб падатках.

## ХВАЛІЦЬ ПАН СВАЮ КУЛЬТУРУ

Хваліць пан сваю культуру
У сняданне і ў абед.
А у хлопа трашчыць скура,—
Бо трымае працай свет.
Чалавек я невук, просты,
На мой розум, здэцца, так:
Лепш дзяручая кароста,
Чым «культуры» гэткай знак.
А куды ні павярнешся,
Куды вокам ні звядзеш,
На «культурны» біч наткнешся...
Каб культуры, здэцца, менш,
Мо было б нам лепей жыці,
Не свістаў бы так нагай.
Навучыліся паны біці
У сто раз горш, як Мікалай.
Пра культуру той не баяў,
Значыць, крыўды не было.
Проста біў і проста лаяў,
Покуль рукі адняло.
А паны ўсё — на «культуру»;
Аж духі нам падвяло,
Каб яе на вашу скуру,
Можа б, гэта памагло.

*1929 г.*

## НАЛЁТ

Што з табой страслося, вёска?
Лямант, енкі, пагалоска
Удоваў і сірот.
    З вёскі стала лому горы,
    Дзе ні ступіш — крыві мора,
    Звіты панскі дрот...
То не бура, не пажары,—
Панскім наймітам — жандарам
Зроблены налёт.
    А нашто? Каб у палацы
    Пан жырэў з мужыцкай працы...
    Бедны мой народ!..

*1934 г.*

## ПАРАГВАЙ

Ў кожнай вёсцы, ў кожнай хаце,
Як вялік Палескі край,
У старога і дзіцяці
Ў вуснах слова «Парагвай».
Агітацыя вядзецца —
Балахоўцамі, бадай:
«Бедната хай прадаецца
І рушае ў Парагвай.
Усяго там удастатку:
Пра зямлю, што й гаварыць.
Хто там знае пра падаткі?
Ёсць што есці, ёсць што піць.
А курыць — махоркі горы,
Да труны вам не скурыць,
Ў Парагваі лепей хворым,
Чым здаровым у вас жыць».
А знайшоўся між сялянаў
У вёсцы Шубічах Цімох
І так кажа капітану:
— А бадай ты, пане, здох!
Забірай ты перш брухатых,
Ачышчай ад злыдняў край,
Мы ў сябе без вас патрапім
Зрабіць лепшы Парагвай.

*Вёска Шэні, 1935 г.*

## ВЯСНА

О вясна, вясна-сястрыца,
Ты ізноў да нас прыйшла,
На цябе я надзівіцца
Не магу з свайго акна!

Ты магутнаю рукою
Родны кут прыбрала ў май.
А з душою што маёю
Ты зрабіла,— не пытай.

О вясна, вясна, чаму ты
Век між намі не жывеш,
І нашто зіме ты лютай
Край на здзекі аддаеш?

*1930 г.*

## РОЗНЫЯ ШЛЯХІ

Адным вайна, другім пацеха,
Адным вада, другім віно,
Адным жыццё ўвесь век арэхам,
Другім — гаручым палыном.

Жылі-былі ў сяле суседзі,
Змяніліс ўладаю цары,
Адзін сусед пражыў — не згледзеў,
Другі — загінуў без пары.

Адзін як жыў, шукаў зацішку,
Другі змагаўся, колькі мог,
Адведаў Вронкі і Лукішкі
І без пары ў зямельку лёг.

Адзін памёр, дык пахавалі,
Як дзеда-прадзеда, з папом,
А ўсё ж другога шкадавалі
І не забудуць век-вяком.

*1930 г.*

## НАВІНА ДЛЯ БЕДНЫХ

Ўсюды новыя, брат, формы,—
На адзежу, боты, хаты,
Ўсюды новыя рэформы,
Але ж толькі для багатых.
Бедняку ж — усё старынка:
Світка, лапаць, курна хатка...
Есць, што праўда, і навінка...
А якая? — Гума *, братка!

*1932 г.*

* Гумавая палка, якой паліцэйскія білі сялян.

## НА З'ЕЗД ЗАХОДНІХ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

### Ў г. ВІЛЬНА Ў 1933 г.

Гэй, паэты вёскі й поля,
Я ваш сябра — Засім Коля,
З-пад Пружанаў, з вёскі Шэні,
І ў мяне, браты, ў кішэні
Часта грошаў брак на марку,
Рэдка ў страве бачу скварку,
Бульбай ўсенька пакрываю,
Гумы * цяжкія цягаю.
Ды не падаю на дусе!
Для працоўных Беларусі
Цераблю я шлях дзярновы,
Ў верш ўплятаю сталі словы,
І аб радасці змагання
Пяяць буду да скanання.
Вас прашу, сябры-вяскоўцы,
Цешце вёску шчырым слоўцам,
Словам бойкім, шчырым словам,
Каб вясковы брат гатовы
Быў адпор даць паняверцы.
Ой, як цяжка мне на сэрцы,
Што быць з вамі не прыйдзецца.
Ды, сябры, няхай смяецца

---

* Гумавыя лапці.

З песняў нашых вораг люты,—
Нашы песні з сталі скуты!
Перашкоды ўсе здрузгочуць!
Яны волі, волі хочуць!
Дык вітаю й дабра зычу,
На ўсе грудзі пяяць клічу!

*Вёска Шэні, 1933 г.*

## ЛІСТ З ТУРМЫ

— Ці здаровы мама, тата? —
Піша сын Сцяпан,—
Для мяне прыдбалі хату,
І жыву, як пан.

Маю я пакой асобны,
Гардэробу шмат:
Нары, столічак свабодны,
Проста як магнат!

Спаць паложаць, збудзяць рана,
Есці паднясуць
І на шпацыр пад ахранай,
Як туза, вядуць.

Ну, бацькі, пакуль бывайце,
Шкода вас да слёз.
А панам там перадайце,
Што напомняць нас.

*Пружаны, турма, 1934 г.*

## ЗАЯЦ

Ішоў Якуб лыка драці
З кіем, ведама, з нажом.
І убачыў на няшчасце
Зайца ў яме пад карчом.
Вось дзе будзе крупнік важны!
Стукнуў зайца кіем ў нос,—
Лыка потым! — і адважна
Ён варыць яго панёс.
На бяду ля самай хаты
Паліцэйскага набрыў,
Прычапіўся гад пракляты:
— Чым ты зайца, хам, забіў?
Дубальтоўка дзе, патроны?
Скажаш ты ці не, хахол? —
Абшукаў яго і ў доме,
Запісаў у пратакол.
Тры гады няволі з гакам
Панскі суд Якубу даў.
З жалю бедны аж заплакаў,
А ў турме ўсё мармытаў:
— Усім скажу, каго я знаю,
Каб абходзілі бяду,
Хай у хату забягае
Заяц — пальцам не крану.

А яму сябры: — Якубе,
Ты ў турме паразумней,
Зайца што? паноў бі ў зубы!
Сядзець будзе весялей.

*1936 г.*

## ПРЫ ПАНСКАЙ ПОЛЬШЧЫ

Мы нічым так не багаты,
Як багаты мы бядой,
Нашы хаты — ў шыбах латы,
Сцены сыплюцца трухой.
Наш кажух — у куце плесня,
Электрычнасць — корч смальны,
Плача з намі наша песня
Пад хаўтурныя званы.
Наша страва — з квасам бульба,
Наш абутак — гумаў круг,
Наш цягнік — у рукі кульба,
Голад — верны брат і друг.
Наша школа — мур за кратай,
Наш тэатр — то секвестратар,
Кіно наша у шынку,
Воля наша на шнурку.

*1937 г.*

## ПРЫПЕЎКІ 1937 ГОДА

На вязу сядзіць варона
І крача галосна:
— Секвестратар у Мірона
Апячатаў кросны.
        Сёння ў дзядзькі Міхася
        «Радасці» па вушы:
        Захварэла парася,—
        Ён сабе задушыць.
А у дзеда у Няходы
«Хаўтуры» у хаце.
Разарваў ён самаходы,
Нескуль другіх ўзяці.
        У Грыпіны ўся радзіна
        На тыфус хварэе,
        Паліцэйскі ж за драбіну
        Пратаколы грэе.
        Ой, у маі, у маі
        Салавей спявае,
        Янка ў студзені сваю
        Бульбу даядае.
Ой, ляцяць, ляцяць гады,
Пара б ажаніцца,
Дзе папу мне грошы ўзяць,
Залатовак трыццаць?

Будуць, будуць хутары,
Гектар з палавінкай,
А тут грошай, хоць памры,—
Перанесць будынкі.

*1937 г.*

## СЫН

Аднога сына маці мела,
Яна і ён — уся сям'я.
Як вока, так яго глядзела
І толькі ім адным жыла.
І рос, як ягада, хлапчына,
Рукой да чуба не дастаць,
Як печ, з шырокімі плячыма,
З вачамі, нібы мора гладзь.
А стройны, стройны, быццам топаль,
Як волат, дужы быў такі,
З душою вольнаю, як сокал,—
Ды не жыццё цяпер такім.
Не поле роднае аручы,
Памёр матулін сокал-сын,
А лёс цяжкі яго замучыў.
Пакінуў маці жаль адзін.

*Пружаны, турма, 1938 г.*

## ДЗЕ НІ ГЛЯНЬ...

Дзе ні глянь — паэтаў,
Як на дрэве лісця,
Слізкіх, як паркеты
Панскія калісьці.

А вось мне падобных
З іх замалавата:
Я пяром, што доўбняй,
Глушу трыбухатых.

Мо яно й нязграбна,
Ды затое ёмка.
Верш каструбаваты,
Як з пянькі пастромка:

Плуг зачэпіш,— цягне,
Не пакіне ззаду
Й на пятлю згадзіцца
Дзе якому гаду.

*3/II 1941 г.*

## НА АСУШКУ БАЛОТ

Навокал балота
Ляжала вякі,
Колькі тут поту
Лілі мужыкі!

Да неба ўзнімалі
Мазольныя рукі,
— Божа,— стагналі,—
Пазбаў нас ад мукі.

Знік цар і Пілсудскі,
За імі знік Бек.
І сам сабе шчасце
Куе чалавек.

Партыя кліча,—
І ўсе мы гатовы.
У далонях трымаем
Рыдзель сталёвы.

Там, дзе пярэсмык
Ласі мелі часам,
Цвісцімуць чарэшні,
Паўстануць калгасы.

Там, дзе стагоддзі
Каўтун быў і трасца,—
Жыць людзям ў згодзе,
У славе і шчасці!

*1941 г.*

## НЯВЕДАННЕ

Эх вы, вочы чорныя,
Зорныя, глыбокія,
Паланілі сэрца вы
Хлопца адзінокага!

І гадамі доўгімі
Той палон не крышыцца,
Плача сэрца беднае,
Чэзне ўсцяж па крышачцы.

Плача й б'ецца птушачкай.
А калі спаткаемся,—
У сваёй ліхушачкі
Я не дапытаюся:

Ці яна палоннае
Сэрца мне парадуе
Хоць якой надзеяю,
Хоць якой спагадаю?

*1940 г.*

# СОН

Сніў цябе сягоння
Я чароўнай кветкай.
Пасвіў ранкам коні,
Ты ішла палеткам.

Тваіх воч прадонне
Вабіла, маніла.
У тваіх вочках до дня,
Здэцца, сонца мылась.

Косы, як аблокі,
На грудзях купалісь.
Небам сінявокім
Уборы красавалісь.

Палатнінай гібкай
Станік гнуўся міла,
Ты не йшла, а рыбкай
У сінім моры плыла.

Сніў цябе такою,
Як з чароўнай казкі...
Ды прачнуўся з болем
Ад тваёй няласкі.

*1941 г.*

## МАІМ УНУКАМ

Калі фашызму скруцім рукі,
Прымусім смерць адпачываць,
Тады сваім параю ўнукам
Вось гэты верш перачытаць.

У радках шурпатых, ды праўдзівых,
Яны убачаць страшны год
І тыя жудасныя дзівы,
Якія зносіў мой народ.

Страшною помстай загарыцца
Унукаў сэрца і душа
Да тых, хто зараз весяліцца
Або шукае барыша.

Дэхлаўскі лес,
*1941 г.*

* * *

Вайна, вайна, прыйшла ты нечакана,
І я ў тылу застаўся незнарок.
Няма цяжэй — ляжаць ў крывавых ранах,
Яшчэ цяжэй — туляцца хоць дзянёк.

Тулянпя дні — не дні, а проста годы,
І ночы доўгія, нібы вякі,
Адным жыву, што вецярок з Усходу
Абудзіць хутка пушчы, лазнякі.

І ачуняю я душой і целам,
Знайду старыя сцежкі у бары,
І па дымку ялінкаў абгарэлых
Знайду я партызанскія кастры.

Ульюся я з надзейным карабінам
У сям'ю братоў — адважных партызан,
Як чэсны воін у баі загіну,
Але — не адступлю назад.

*1941 г.*

* * *

Заравіце, буры, зашуміце, ветры,
Прыглушыце ў сэрцы вы маім тугу,
Разганіце стогны людскія ў паветры,
Я тады па краю родным прабягу.

Прабягу па вёсках у сцюжы, ў марозы,
Людзі мяне прымуць, не бандыт жа я.
Прыгадаем з імі аб жыцці прыгожым,
Як цвіла пад сонцам родная зямля.

І скажу я людзям, больш каб не цярпелі
Той бяды крывавай, што цяпер вісіць,
Каб хваталі косы, вілы і сякеры
Ды ішлі са мною катаў-немцаў біць.

Словы мае людзям дададуць адвагі,
Грозною лавінай рынемся мы ў бой.
Затрапечуць горда, пераможна сцягі
Над крывёй залітай роднаю зямлёй.

*Снежань, 1941 г.*

## НЕ ГНІСЯ

Ў жыцці заўсёды так вядзецца,
Як людзям гора — гадам смех.
Паскуднік, той, хто зараз гнецца
Прад кулаком замазаць «грэх».

Не гніся, брат, не бі паклонаў,
Не віся сучкай каля пят:
Кулак — твой вораг аж да скону,
Фашысту-кату — родны брат.

Табе ён зараз «косю, косю»,—
Пакуль ўзарэш яму папар,
А потым скажа: «Ужо досыць,—
Ідзі бяры яго, жандар...»

Глядзі, як скача ён ўпрысядку,
Як паразіту весяло.
А ты не скінь прад гадам шапку,
Каб потым сорам не было.

*2/XII 1941 г.*

## НЕ ДЛЯ ТЫХ ПЯЮ...

Не для тых пяю,
Што вяселяцца,
Прад багатымі
Лістам сцелюцца.

А для тых пяю,
Хто згінаўся ў крук,
Хто за працаю
Не адводзіў рук.

Хто на ворага
У рукі ўзяў абух,
Каб з катората
Выбіць подлы дух.

Хто ішоў, ідзе
За Саветы ў бой,
Песні гэтыя
Хай прымае той.

*25/XII 1941 г.*

## ТАКІ АД ПРАДЗЕДАЎ ЗАКОН

Хто чэсці ганьбай не замазаў,
У кім сэрца праўдаю гарыць —
На бой з фашысцкаю заразай!
Даволі кроў ёй нашу піць.
За вілы, стрэльбы, за сякеры
Бярыся, вольны чалавек!
І адплаці ты катам-зверам
За крыўду, слёзы і за здзек.
У крыві, лілася што паўгода,
Тапі забрыўшых прусакоў!
Яшчэ расійскаму народу
Не накладаў ніхто акоў.
А спрабавалі чужаніцы,—
Ардой на нас, на Русь ішлі,
І ўсе галовы склалі ніцма
На нашай ўзрушанай зямлі.
Так будзе й зараз!
Гітлер ляжа,
Сваю арду загубіць ён.
Такі у нас,— народ наш кажа,—
Ад дзедаў, прадзедаў закон.

*16/XII 1941 г.*

## ЗАКЛІК

Кліча нас зямля святая,
Кліча родны наш прастор,
Клічуць нашы ураджаі
Помсціць немцу за тэрор.
Біць без літасці, без спуску
Прыблудзіўшых к нам пачвар,
На ўвесь свет каб беларускі
Наш праславіўся удар.
А кулак наш, як жалеза,
Грудзь шырокая, што печ,
Дый пад бокам Белавежа,—
Можна ўдарыць, можна ўцеч.
Так уцеч, каб снілась кату,
Што бяжыш ты ўслед за ім,
Каб ён сам падмазаў пяты,
Страхам выгнаны сваім.
А ачухаецца,— зноўку
Налядзім з усіх бакоў
З мінай, з бомбаю, з вінтоўкай.
Смерць — за смерць, а кроў — за кроў!

*1941 г.*

## НА БОЙ!

На бой, на бой, хто к бою здольны!
Гані з зямлі сваёй бадзяг!
Мацней трымай ў руках мазольных
Камуны сцяг, чырвоны сцяг!

На бой, народ, мацуйся духам,
Скідай нявольніцкі ланцуг.
Мільённых мас знішчальным рухам
Сатры фашысцкіх валацуг.

На бой магутнаю лавінай
Ідзі, працоўны чалавек.
Мы бараніць свой край павінны,
Інакш загінем мы навек.

Ратунак наш — у вострай зброі,
У нашым гневе — шлях жыцця.
На бой усе, хто здольны к бою!
Хай нас вядзе чырвоны сцяг.

*13/XII 1941 г.*

# 1941 ГОД

Распухла зямліца
Ад людскіх магіл,
Сонцу дзівіцца
Праз дым няма сіл,
Енкі і стогны
Грымоты глушаць,
Рэкі людскою
Крывёю брыняць.
У ботах смяротных
З заходу на ўсход
Гітлер пякельны
Прынёс гэты год.

Кэмароўскі Лев,
*1941 г.*

## ДУМКІ

Як восень чысціць поле,
Як бура ломіць гай,
Фашызм пракляты сёння
Пустошыць родны край.

Адно бы толькі змрочных
Усцешыла людзей,
Каб Гітлеру хто ў вочы
Дулам паглядзеў,

Ці на сухой асіне,
Як пажаўцелы ліст,
Вісеў распёрты, сіні
Крывавы кат-фашыст.

Дахлаўскі лес,
*1941 г.*

## ПАД ВОРАГАМ

Не там цяжэй, дзе рвуцца кулі,
Не там, гарматы дзе равуць,
А тут, дзе польскія панкрулі
З гестапам кроў людскую п'юць.

Там бачыш, вораг прэ ў атаку,—
«Працуй, мой верны кулямёт!»
А тут, ў падполлі, шпік-сабака
Цябе цікуе ля варот.

Тут, у падполлі, часам крочыш
Ты побач з ворагам такім,
Што, каб не стукнуць паміж вочаў,
Сціскаеш рукі ў кулакі.

Тут гібне люд асеннім лістам.
Ноч перажыў — і гэтым рад:
Падкажа шпік, што камуністы,—
Вазьмуць — не вернешся назад.

Падкажа шпік, што партызаны,—
Гестапа згубіць ўсё сяло...
Калі ж мы скінема кайданы?
Засілім ворага ў сіло?

Калі, зямелька дарагая,
Не будзеш мачыхай, калі?
Тады, калі фашыстаў зграя
Павісне на сухім галлі.

Калі ад Буга да Наддзвіння
З усёй магутнасцю сваёй
Народ над ворагам ускіне
Кулак-абух сталёвы свой.

І сплюшча ў блін, у дол загоніць
Барона, з ім і халуя...
Але, сябры мае, сягоння
Нам дыхаць цяжка тут ўдвая...

*15/XII 1941 г.*

## «РАЙ»

Усё «давай», «давай», «давай»,
«На» — няма нікому...
— Прычакалі, дурні, «рай»,
Нылі па якому?

— Горкі быў савецкі блін,
Захацелась рому?
Цяпер жрыце сахарын,
Хай грызе трахома!

Бо каню, пакуль хамут
Не намуліць карку,
У дзень давай аўса хоць пуд —
Пойдзе ўсё насмарку.

Так і вы: як галаву
У гэты «рай» ўсадзілі,
Спагаднеце мо таму,
З каго ўчора кпілі.

*1941 г.*

## «ВЯСЕЛЛЕ»

Узяўшы рукі у бакі,
Сякуць з дрыпам кулакі:
«Трай-ля, люй-ля, тра-та-та,
Больш не правіць бедната».

Салтысы, вайты, бурмістры
Цяпер рады усе чыста:
«Парабкоў наймай, гандлюй,
Капітал збівай, махлюй».

«Трай-ля, люй-ля, трай-ля, гоп! —
Падпявае з імі поп,—
На зямлі, на небясі
Рука вашая «есі».

Немец лепей, чымся бог,
Бальшавізм прагнаць памог.
Трай-ля, трай-ля, трай-ля-ляй!
Не вайна, а проста рай!»

А батрачка на пячы:
«Ад пятлі вам не ўцячы!»

*1941 г.*

## ПОМСТА

Няхай баль спраўляюць па жыцці юнацкім
Каспяровіч, Мілка, Кобус, Мацяюк,
Ды крыві ніколі Засімаў, Сахацкіх
Ім не ўдасца сцерці з сваіх подлых рук.

Семярых забілі, думаюць: збавенне.
Нас такіх мільёны — усіх не перабіць.
Мы звядзём з карэннем вашае насенне,
Камунізм вам, гады, гэтым не згасіць.

*17/XI 1941 г.*

## Я ХОЧУ ЖЫЦЬ

Я хочу жыць, я буду жыць,
Я вынесу ўсе буры,
І на мяне не набяжыць
Воўк у авечай скуры.

Яго пазнаю я здалёк
І нават у цямноце,
Пашлю яму свінца кусок,
Няхай трымае ў роце.

А як ён часам праглыне
І выжыве, падлюга,
Усё ж здалёку абміне
Майго ён нават друга.

Бо ўспомніць ён мае «дары»...
Я вам таксама раю:
Ваўкоў-шпікоў і вы, сябры,
Хутчэй ганіце з краю!

*1941 г.*

* * *

Вы на сонца не глядзеце,—
Не асушыць слёзы.
І не стаўце твар на вецер,—
Вецер не паможа.
    Есць ад слёз тых, ад гаручых,
    Адны лекі, людцы,—
    А растуць яны па пушчах,
    Там, дзе з немцам б'юцца.

*1941 г.*

## ВЫПРАЎЛЯЛА МАЦІ СЫНА

Выпраўляла маці сына,
Выпраўляла ў ночку,
Выпраўляючы, прасіла:
— Сынку мой, сыночку!
Мо цябе я не пабачу,
Але хочу, сыну,—
Калі суджана загінуць,—
Каб героем гінуў.
Хоць застануся сама я
На старыя леты,—
Гітлер-гад няхай пазнае
І кацюг ягоных зграя,
Як чапаць Саветы...
Выпраўляла сына ў ночку,—
Паліліся слёзы...
Раным-рана у лясочку,
У белым снезе, на грудочку,
Ля старой бярозы.
Крумкачы гульню спраўлялі...
Досыць глюгам стравы:
Злева — немцаў сто ляжала,
Сын матулі — справа.

*1941 г.*

## ДУМКІ ПАРТЫЗАНА

Скінула зямліца
Зімнія уборы.
Сэрца весяліцца,
Хоць навокал гора.

Ці пайду я полем,
Ці пайду я гаем,
След мой на прыволлі
Раса замывае,

Прыхіне, як брата,
Куст лазы на ўзлессі,
Лоб мой узмакрэўшы
Халадком папесціць.

Лес птушыным крыкам
Зрок мой насцярожыць,
Калі дзе засада
Ці канвой варожы.

О, мая зямліца,
Мой прастор шырокі,
Долю-ліхадзейку
Возьмем мы за бокі,

Бо мне ўсё гаворыць:
— Брат, мацуйся духам,
Чужаніца-вораг
Разляціцца пухам.

*1941 г.*

## ПАДЗЯКА

Нацягніце, хмаркі, месяцу на вока,
Нацягніце, любкі, шэрае бяльмо.
Можа, я адскочу ўбок на сотню крокаў
І жыццё ад кулі уратую мо?

Слепне жоўты месяц ды ўсё болей, болей...
А звяры-жандары пруць ардой услед.
Цёмная разорка пацягнула ў поле,
Нібы пуцявінка проста ў белы свет.

Я туды... за мною грымнулі гранаты,
Кулі прасвісталі недзе ў старане...
Дзякую вам, хмаркі, і табе, араты,
Што забіць жандарам не далі мяне.

*1941 г.*

* * *

Ці ж лясы дрымучыя,
Ці ж палі шырокія
Схочуць, каб замучылі
Хлопца сінявокага?

Не захочуць родныя,
Не захочуць мілыя,
І зямля народная
Не будзе магілаю.

Покуль поле сцелецца,
Покуль лес кудзеліцца,
Не зладзіць мяцеліцы
Мяне на аселіцы.

І з свячой грамнічнаю,
Нат пры ясным сонейку,
Немцу кату-вычвару
Не знайсці ў сасонніку.

А нямчуга лютая
За сто вёрст хай з'явіцца,
Дык адной мінутаю
З жыццём развітаецца.

Бо зямліца родная
Толькі нам належыцца,
Хто ступіць к нам спробуе,
Нож ў таго урэжацца.

*1941 г.*

## ДУБРОВА

Не скідай, дуброва,
Ты лісцё з галля:
Цёплай будзь аховай
Тым, што без жылля.

Ты для іх, як матка,
Як сястра для ўсіх.
Будзь жа роднай хаткай
Для бяздомных іх.

Скінеш ты, дуброва,
Лісцечка тады,
Як мы з боем новым
Возьмем гарады.

Рэха лес абудзіць,
Прагрыміць, як гром.
І тады зноў людзі
Вернуцца ў свой дом.

*1941 г.*

## ПАРТЫЗАН

Гналі, гналі партызана
Жандармеры-зверы.
Кроў з яго сцякала ранаў,
Ногі стылі, млелі.
— Вы не млейце, ногі, жылы,
Кроў, цурком не ліся!
Вось лясок — знаёмы, мілы,
Кусцікі спляліся...
— Эх, ці смерць, ці вольным стаці! —
Скочыў, як пружына...
— Лес мой — бацька, пушча — маці,
Выручайце сына!
Брат, хутчэй, хутчэй да яру,
Там ратунак стрэне!
...Не дабег, не змог таварыш...
Прагрымелі стрэлы.
Зашумелі ўверсе хвоі —
Земляка пазналі,
На магілку пад сабою
Голля наскідалі.
І шумяць, гудуць пра славу
Дарагога сына,
Што за родную дзяржаву,
Як герой, загінуў.

*1941 г.*

## З ПАЛОНУ

Скавытала воўкам
Бура за акном,
Брыў баец з Кацёлкаў
Непагожым днём.
Тыдзень як з палону,
Шчэ не піў, не еў.
«Можа, вёску стрэну? —
Проста абамлеў...»
Вось ужо і хата.
Ганак, як вянок,
Гаспадар брухаты
Выйшаў на парог.
Прывітаўся «міла»,
Нат падаў руку,
Толькі штось на мігах
Паказаў сынку.
Прытуліўся к печы,
Спачываў баец...
Раптам солтыс ўскочыў,
З ім жандараў шэсць.
«Пропуск нікс, рус швайнэ?» —
Буркнуў афіцэр.
...У кулака за стайняй
Грымнуў тройчы стрэл...

Грымнуў і замоўкнуў...
Пачакай, кулак,—
Будзе табе, воўку,
Неўзабаве так...

Прыйдуць ноччу людзі:
— Ну, расплату стрэнь...
Тройчы — па Іудзе —
Прагрыміць тут стрэл.

Вёска Шубі[illegible],
*1941 г.*

## ЗІМА 1941—1942

Вёска заснула,
Пеўні прапелі;
Жахам дыхнула
Ад снежнае белі.
У вёсцы санную
Хваляць дарогу,
А я сумую,
На сэрцы трывога.
Прагна чакаю
Вясновае ночкі,
Што пакрывае
Травою слядочкі.
Зноў па зямліцы
Буду гуляці,
Каб чужаніцам
Век не паймаці.
Скіне зямліца
Зімнія ўборы,
Гнеў разгарыцца,
Хай дрыжыць вораг.

*19/I 1942 г.*

## МАРОЗ

Засмалі, мароз,
Засмалі ямчэй.
Прабяры наскрозь
Фашыстоўскіх змей.

Выжмі парай дух,
Трупам іх пастаў.
Працінай кажух,
Каб ён лубам стаў.

Лезь у валенкі
З рукавіцамі,
Каб пасталі там
Пальцы спіцамі.

Цісні іх, мароз,
Цісні іх мацней.
Прабяры наскрозь
Фашыстоўскіх змей.

*19/I 1942 г.*

* * *

Сэрца просіцца на волю,
Цяжкі лёс яго змарыў.
Часам здасца, што ніколі
Вольнай птушкай я не быў.

Адабрала злая доля
Сонца, крылы і прастор,
Толькі думкі рвуцца к волі,
К небу яснаму, да зор.

Не, не здамся чорнай хмары,
Што б навокал ні плялі...
Ноч... вінтоўка... друг, таварыш!..
К чорту з роспаччу! Пайшлі!

*1942 г.*

## ТАВАРЫШАМ

Таварышы! Жывема раз,
Жыві ж не для сваволі!
Прайдохі хай не квапяць час
Пражыць сто год і болей.

Пражыць бы чэсна адзін дзень —
Не ў «лецях» тутка справа:
Трэ жыць для велічных ідэй,
Каб век грымела слава!

*18/I 1942 г.*

## ДРУГУ ПА НЯШЧАСЦЮ

У крыві па пояс
Кат гуляе люты,
Усё цясней нам штораз
Заціскае путы.

Забірае пілы,
Выдзірае клямкі...
Дык дакуль, друг мілы,
Несці будзем лямку?

Не сляпы, здаецца,
Бачыш, як навокал
Кроў ракою льецца
Шырока, глыбока.

Дык распраў жа косці,
Набярыся духу,
Адплаці ты «госцям»
За гора, за муку.

Бі на кожным кроку
Катаў-гітлероўцаў,
Каб у гэтым року
Уцяклі, як оўцы.

Каб ты пры Саветах
Зноў зажыў у шчасці,
Вазьмі к сэрцу гэта,
Дружа па няшчасцю.

*1942 г.*

* * *

Не пячы, як бульбу, вершы,
Смачныя не будуць,
Прачытаюць радок першы
Людзі — і забудуць.
Трэба верш варыць з цярпеннем,
Дакладаць прыправы,
Добры повар і з карэння
Зварыць смачну страву.
Так і ты, паэт, мой дружа,
Не шкадуй ты часу.
Верш — то нашае аружжа,
Уся уцеха наша.
Добры верш нам робіць славу
І карысць краіне,
А слабы, як конь кульгавы,
Па дарозе гіне.

*1937—1942 гг.*

## ГОРА

Не лячу я пад аблокі,
Не спускаюся ў глыб мора,
А пішу аб тым, што вокал,—
Пра людское гора.
    Зараз гора — як ніколі,
    Дзе зірнеш — ўсё гора,
    Гора дома, гора ў полі,
    Хоць ты ляж у зморы.
Гора хмараю павісла
Над роднай краінай,
Гора каменем прыцісла
Людзям грудзі, спіны.
    Гора смокча людзям сэрца,
    Прыгнятае душу.
    Вось аб гэтым я, паверце,
    Пісаць зараз мушу.
У кулак збяром мы гора,
Па фашысту пляснем!
Згіне гора, згіне вораг,—
Зажывём мы шчасна.

*8/II 1942 г.*

## НА КАТАРГУ

Зноў гоніць кат на паняверку,
На катаргу сясцёр, братоў,
Каб за бурды сівой талерку
Выцягваць жылы, смактаць кроў.

Глядзяць ім ўслед сіроча сёлы,
Лясы, палі і балаты.
А сум цяжкі, нібыта волаў,
Павіс над краем залатым.

*20/XI 1942 г.*

## ЗАБРАНАЯ ВЯСНА

Вясной смяюцца далі,
Вясна гудзе вадой,
Ды толькі ў нас забралі
Вясну, мой друг, з табой.
Нам не хадзіць за плугам
Вясною, як калісь;
Па пятах кат-падлюга
Цікуе, быццам рысь.
Нам не званіць па грудзях
Сваёй зямлі зярном.
Ляжаць мо дзесьці будзем
З табой пад дзірваном.
І песняй жаваронкі
Не збудзяць на зары,
І, можа, матка з жонкай
Загінуць без пары.
Загінуць... калі, браце,
Не ўстанем грамадой —
У лесе, ў полі, ў хаце —
Супроць фашыста ў бой.
Калі не ўстанем дружна
І мужна за свой край
Супроць іх валацужных,
Грабежніцкіх іх зграй.

Глядзі, смяецца поле,
Цалуе сонца твар...
Не дасць народ ніколі
Загінуць ад пачвар!

*1942 г.*

* * *

Па балотнай твані
Позна ўначы
Хлопцы йшлі з ламамі,—
За рамнём ключы.
Паміж Тэвелямі
І сялом Харкі
Пелі жураўлямі
Шпальныя гакі.
Рэйка паслухмяна
Адышла на крок,—
Наляцеў і гракнуў
Эшалон набок.
А назаўтра зноўку
(Ўсё ім ніпачым)
Хлопцы йшлі к чыгунцы,—
За рамнём ключы.

*Дахлаўскі лес, 1942 г.*

# НОЧКА

Эх ты, ночка, ночанька,
Цёмная, туманная,
Затулі мне вочанькі,
Думна недаспаныя.

Снамі саладзенькімі
Абагрэй мне душачку,
У маткі быў адненькі я,
Жыў, як тая птушачка.

Мераў высь лазурную,
Мераў ўшыр і вокала,
Што мне ветры бурныя,
Калі быў я сокалам!

Што мне зімы лютыя,
Ночы што спякотныя,
Ды цяпер вось путамі
Скручан я смяротнымі.

Эх ты, ночка, ночанька —
Партызан спадручніца,
Прычакаць мне хочацца,
Гэтак каб не мучыцца.

Памагай жа, родная,
Мне сваёй цямнотаю
За жыццё свабоднае
Біці немца спотая.

Ты цяпер адзіная,
З кім дзялю пакуты я,
І з табой не згіну я,
Выб'ю немца лютага!

*1942 г.*

* * *

Як валы, праходзяць дні,
Ночы, нібы хмары,
Ды гараць ў грудзях агні
Помстай за ахвяры.

Не згасіць бядзе ліхой
Тых агнёў ніколі,
Дух яшчэ мацнее мой
У барацьбе за волю.

*3/II 1942 г.*

## ПАЭТУ

Пісаць пра волю — гэта мала,
Без справы слова — гэта грош.
Трэ, каб адна рука дзяржала
Пяро, другая — востры нож.

Нажом пары фашыста-звера,
Пяром апісвай яго скон!
Такіх паэтаў трэ цяпер нам
Для нашых грозных, мужных дзён.

*Дахлаўскі лес, 1942 г.*

## ЗА РАДЗІМУ

Ты не плач, матуля,
Родная, не плач,
Што мая кашуля
У крыві, як квач.
Кроў мая, матуля,
Дарма не цячэ:
Многа маіх куляў
Ворага пячэ.
А падлечаць раны,
Зноў пайду у бой,
Край акупаваны
Вызвалім мы свой.
І тады, як сокал,
Павярну дамоў
І зямлю глыбока
Заару плугом.
Сэрца будзе біцца
Радасна ў грудзёх,
Што край ад чужынца
Бараніў, як мог.

*15/V 1942 г.*

## «СПАТКАННЕ»

Гітлер-кат слаў афіцэраў,
Тоўстых, выпешчаных звераў,
На Усходні фронт.

Весяліліся ў вагонах
Зграя золатапагонных,
Распівалі ром.

Пілі, спалі, пілі, елі,
Ды за Бугам ліха стрэлі
Каля Тэвялёў:

Партызаны з кулямётаў
Іх узялі у работу —
Палілася кроў.

Білі ў лоб і білі з тыла,
Многіх там ўзяла магіла,—
Не палічыш страт.

Не даелі, не дапілі,
Сто галоў не далічылі...
Так сустрэў наш брат.

Як паедзе іншым разам
Гітлероўская зараза,
Прагнучы Масквы,

Іх такім агнём сустрэнем,
Што не знойдуць ні адзення
І ні галавы.

*Дахлаўскі лес, 1942 г.*

# ПЕСНЯ ПАРТЫЗАН

Ой, ў тым шумным лесе, дзе бруіць крыніца,
Людзі сваім горам сышліся падзяліцца.
Сышліся падзяліцца ды памеркавацца,
Як за сваю волю з ворагам змагацца.
Многа іх, ой многа, не акінеш вокам:
І старых і малых, зблізку і здалёку.
Думалі, гадалі і ў адно рашылі:
З ворагам змагацца, покуль кроў у жылах.
Біці, колькі змогі, гестапоўцаў лютых,
Дарма не праводзіць ні адной мінуты.
Ой, у шумным бары, дзе галосяць совы,
Не сядзяць героі, спусціўшы галовы.
Праца іх відная, не сляпы хто — бачыць,
Іх калісь Радзіма гонарам адзначыць,
А як хто з герояў згіне ў завірусе,—
Век жыць будзе імя яго ў Беларусі.

*Старасельскі лес пад Брэстам,*
*15/VIII 1942 г.*

## НА ЗАДАННЕ

Выбіраліся партызаны
на заданне,
Прычасаліся, ўмыліся
яшчэ з рання,
Перагледзелі як трэба
сваю зброю,
Вочы ўсіх гарэлі
помстай злою.
Не дастанеш сонца
яшчэ тычкай,
Партызаны робяць
пераклічку.
Камандзір праверыў,
сказаў «ў ногу».
І пайшлі ўсе
на шашу-дарогу.
Ад абозу засталіся
толькі трэскі,
Разагналі, перабілі
немцаў ў пералеску,
А як пеўні прапялі
ранне,
Павярнулі ўсе назад
з задання.

Усім на сэрцы было
міла, лёгка,
Што Радзіме зроблена
палёгка.

*Шчэбрынскі лес, 1942 г.*

## НЕЧАКАНА

Абганяла сонца росы,
Ранак звонка граў баянам,
Партызан падбітых, босых
Прывялі страляць над ямай.

Рэвальвер глядзеў сярдзіта
У руцэ брыды-жандара...
Не удасца вам, бандытам,
Партызанаў забіць дарма.

Корч высокі плюнуў куляй,
Аж адклікнуліся хмары,
І зваліліся, як вуллі,
Дзве нямецкія пачвары.

Ранак звонка граў баянам,
Абганяла сонца росы...
Абняліся партызаны,
Закурылі папяросы.

*1942 г.*

## НЕ ГЛЯДЗІ НА ШЛЯХ, ДЗЯЎЧЫНА...

Не глядзі на шлях, дзяўчына,
Не муч вочак дарма.
Не вярнецца твой каханы,—
Забілі жандары.

Ён загінуў па-геройску,
Малады юнача...
Як хадзіў у родну вёску,
Каб цябе пабачыць,

Паўзірацца хоць хвіліну
У тваіх воч блакіты,
Ды направілі у сэрца
Кулямёт бандыты.

Яшчэ ў яме тваё імя
Прашапталі вусны...
Не глядзі на шлях, дзяўчына,
Надарма, напуста.

*1942 г.*

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ БАЦЬКОЎ

Не застрашыце нас, каты,
Ні расстрэлам, ні пятлёю.
За кроў маткі, за кроў таты
Сваю помсту я утрою.

Вобраз голуба-татулі
І ў маршчынах маткі твар
Трапнай зробяць маю кулю
І распаляць помсты жар.

А калі загіну ў бойцы,
Дык такі я не адзін,
Будзе помсціць вам, забойцы,
Друг мой — іншай маткі сын.

*1943 г.*

## НА МАГІЛУ ПАРТЫЗАНУ ДЗМІТРУКУ А.

Агонь гарэў у тваіх вачах,
Меў сэрца, нібы з прыску,
Ты гора зносіў на плячах
Ад самае калыскі.

Жыццё юнацкае злажыў
Ты на алтар радзімы.
Ты барацьбою заслужыў
Сабе героя імя.

Ты быў той сталлю, што ў агні
Гартуецца, крапчэе,
Ты быў той сталлю, што не гні —
Дарэмная надзея.
. . . . . . . . . .

Ты сцяг працоўных нёс, з рукі
Не выпускаў ніколі.
Прымі вось гэтыя радкі
З маім сардэчным болем.

*Старасельскі лес, 10/V 1943 г.*



Як мы вернемся дахаты
З пушчы і бароў,
Прывітаюць нас дзяўчаты,
Скажуць: «Будзь здароў!»
Сабяруцца людзі з вёскі
Паглядзець на нас.
Будуць маткі ліці слёзкі
З радасці за нас.
Пра свае раскажам чыны
Людзям, пра сяброў,
Як абстрэльвалі машыны,
Як скідалі ў роў,
Гарнізоны як грамілі,
Рвалі як масты,
Як гаўляйтэра забілі,
Кінулі ў кусты.
Нашу славу з хаты ў хату
Песня разнясе.
А цяпер — за аўтаматы,
На заданне ўсе!

*1943 г.*

* * *

«Люблю, люблю»,— пляцеш штовечар,
Мой мілы хлопча, другі год,
А сам ляжыш, як кот, на печы
Ды знаеш — плюеш у пакот.

Тады назвеш мяне сваёю,
Як знак Айчыннае вайны
Табе навесяць, як герою...
А ён не там, дзе саганы.

*1943 г.*

## ПРЫПЕЎКІ 1942 ГОДА

Стогне Тэкля на пячы,
З голаду канае.
Немец-кат прыстаў, крычыць:
«Гіб, фэрфлюхтэр, аер».
    У Прузыны ледзьве дух,
    Ўся ў дзірках спадніца,
    Немец лае: «Гіб кажух,
    Гіб і рукавіцы».
Грыца выгналі ў абоз,
Кляча наравіста,
Не схацела везці воз...
Грыца б'юць фашысты.
    Нёс Якім грачыхі пуд
    У жорны да Івана.
    Немцы ўбачылі: «Капут,
    Ежа партызанам».
Бессардэчны вораг, лют,
Дадамо шчэ рыску:
Кажуць людзі, што капут
Усім фрыцам блізка.

*1943 г.*

## НІ ЗЯРНЯТКА НЕ ДАВАЙ!

*Напісана ў час барацьбы
партызан за хлеб*

Немцу курчыцца жывот,
З галадухі млее,
На наш хлеб разявіў рот,
Быццам зяпу змея.

Толькі ведай, працы люд,
Ведай, браце мілы,
Як здасі ты збожжа пуд,—
Сабе ж на магілу.

Лепш ты катаў гэтых рэж,
Не давай зярнятка!
Усё, што з поля ты збярэш,
Схавай чыста, гладка,

Каб было нам чым спаткаць
Франтавых герояў,
Партызанам мець што даць,
Як зайдуць парою.

*Старасельскі лес, 1943 г.*

## ВОРАГУ

Нам належаць Рэвель, Рыга,
Букавіна, Коўна,—
Табе, Гітлер, ў храпы хвіга
Тон дзесятак роўна.

Да савецкае улады
Нашы людзі чуткі,
А табе, фашысту-гаду,
Справяць лазню хутка.

І пра «новую Еўропу»
Кінь спаваць лятункі,
«Новы лад» з табою здохне,
Вываляцца шлункі.

*5/III 1943 г.*

# СОЛТЫС

Усё жыццё казаў Зубаты:
«З краю, ззаду мая хата».
А цяпер, дык ого-го!
Скуль той розум у яго?

Солтыс ў немца хоць куды,
Бруха стала — тры пуды,
Шыю носіць гусаком,
Не прыгнеш і басаком,

Па-англійску брые вусы,
Як паніч, прыапрануўся:
Боты з хрому, як люстэрка,—
Здзёр у геце, забіў Бэрку.—

Галіфэ і гімнасцёрка...
Прад гестапам, як вавёрка,
То падскочыць, то прыгнецца.
Скуль той шнапс ў яго бярэцца?

П'е і з шэфам, і з гестапам,
Ловіць дзевак ім па хатах,
Губернатарам падлюга
Стаў над нашым родным Бугам.

Стогнуць людзі, лаюць матам,
Вось табе і «ззаду хата».
Пачакай, прыжджэш, смуродзе:
Партызаны блізка ходзяць

І рыхтуюць табе, кату,
З шасці дошак нову хату.

*1943 г.*

СЯСТРА МАЯ...

Ты дзе цяпер, сястра мая,
Аб гэтым я не знаю,
Адно, аб чым дачуўся я:
Схапілі паліцаі

І павязлі на Беласток,
У Прусію рабою,
І хлеба не далі кусок
Узяці нат з сабою.

Каб па дарозе не ўцякла,
Скавалі рукі туга,
І каля кожнага сяла
Цябе сцябалі пугай.

Табой наводзілі ўсім страх,
Каб ўсе былі ў пакоры,
А я, сястрыца, у карчах
Аблёг, быў моцна хворы,

Не мог, каханая, павер,
Прыйсці на дапамогу...
Заліў крывёю люты звер
Усе шляхі, дарогі.

Ты дзе цяпер, сястра мая,
Аб гэтым я не знаю.
Адно — надзею маю я,
У Берліне што спаткаю.

*Старасельскі лес, 1943 г.*

## СЛЯДЫ ВАЙНЫ

Выйду за вёску і гляну,—
Колькі было хараства!
А зараз на сэрцы — туманы,
А зараз на сэрцы — жарства.

Бабка ідзе, я пытаю:
— Дзе твой, бабулька, сынок?
— Немцы забралі, чакаю
Сына ўжо хутка гадок.

Стрэну дзяўчыну-вяснянку,—
Вочы, што неба блакіт.
— Дзе твой каханы, дзе Янка?
— Ворагам,— кажа,— забіт.

Дзед кандыбае з кульбакай,
Дыхаці цяжка яму...
— Сям'я дзе? — спытаўся. Заплакаў
І паказаў у зямлю.

Дзеду мой, дзеду! Не трэба
Плакаць, хоць раны гараць.
Бачыш? — вось хлопцы, вось стрэльбы,
Мсціўцаў народная раць.

Будзем змагацца нястомна,
Ворагаў будзем крышыць,
Каб без няволі, без войнаў
Край наш заўсёды мог жыць.

*1943 г.*

## СУСТРЭЧА

Уся вёска ў адзін мах
Збеглася к Якіму,
Бо прыехаў ў ардэнах
Сын Іван з Берліна.

Тут і дзед стары Лукаш,
Сябры Грыц, Тадорка,
Паміж іх салдацік наш,
Як на небе зорка.

І абуты і адзет,
Выбрыты, умыты.
— Знаць, набіў,— заўважыў дзед,—
Шмат, унук, бандытаў?

Недарма ж у ардэнах
Твае, малец, грудзі!
На якіх пабыў франтах,
Раскажы ты людзям.

І з запалам маладым
Дзед глядзіць на «мальца»,
Шэпча ўголас ўслед за ім
І кладзе на пальцах:

— Сталінградскі, Ленінградскі,
Кіеўскі, Адэскі...
Усюды немцаў білі хвацка,
Дзеду,— па-савецку,

Гэты ордэн за Маскву,
Гэты за Варшаву,
І за Курскую дугу
Далі ордэн Славы.

*Пружаны, 1945 г.*

## НАВУКА КАЛГАСНІКУ

Ты не думай, што араць
Гэта вельмі проста.
Апроч ворыва, трэ знаць
Спраў на полі до ста.

Як арэш, дык не ары,
Нібы носам муха.
Сашнікам ты, брат, бяры
Добрую краюху.

Кладзі роўненька у рад,
Не як свіння рые,
А як вучыць нас урад
І агранамія.

Гатунковым зернем сей,
Спускай з поля воду,
Збяры збожжа з плошчы ўсёй
У добрую пагоду.

Тады будзе працадзень
У цябе багаты,
Не загляне гора цень
На парог у хату.

А як будзеш ўсё рабіць,
Браток, па-старому,
Тады што і гаварыць —
Хлябец будзе комам.

*Брэст, 14/II 1945 г.*

# МАЦІ

Маці дарагая, маці мая міла,
Каб магла ты, маці, ўстаць цяпер з магілы,
Каб магла ты ўбачыць, як цяпер на свеце
Вольна і шчасліва жывуць твае дзеці.

Не хаджу я, маці, цяпер цёмнай ночкай,
Не хаваю ў лесе я сваіх слядочкаў,
Не ступаю ціха, каб не чулі каты.
Я цяпер, матуля, як арол крылаты.

Я цяпер убраны, я цяпер абуты,
Не зарослы мохам ад цяжкой пакуты.
І жыву не ў лесе, а ў хаціне чыстай.
Стаў я ў часе бою, маці, камуністам.

Каб ты ўстала, маці, і каб паглядзела,
На капу гадочкаў ты б памаладзела,
Заспявала б песню ты яшчэ, матуля,
Апранула б белу вышыту кашулю.

З радасці згуляла б «Юрачку», «Мікіту»
Для сваіх на радасць, ворагам на ліха...
Ды не ўстанеш, маці, ты з сырой зямліцы,
Жыццё адабралі каты-чужаніцы.

Ведаю, матуля, перш чым смерць скасіла,
Пра свайго згадала партызана-сына.
Спі спакойна, маці! Вобраз твой да смерці
Берагчы я буду у сыноўскім сэрцы.

Мяне ж гадавала ты ў такой няволі,
Нават нарадзіла на кулацкім полі,
І пайшла за прачку ты у двор служыці,
Каб скарынку хлеба сыну зарабіці.

Мора слёз праліла праз мяне ты, мама,
Як сядзеў пры Польшчы за турэмнай брамай,
І не раз жандары панскага маршалка
За мяне, матуля, цябе білі палкай.

Усе ты па-геройску зносіла прынукі,
Усё на Усход ўзнімала у мазолях рукі
І адтуль збаўлення ты ўсё ж прычакала,
Ды пажыць у шчасці давялося мала.

Немцы-крывасмокі адабралі волю,
Залілі край родны горам ды бядою.
І за партызана-сына і паэта
Цябе, дарагая, страцілі са свету.

Хай зямля, матуля, табе лёгкай будзе
І, як пух, атуліць прабітыя грудзі.

*Пружаны, 1946 г.*

## ЗЕМЛЯКУ-САЛДАТУ

Ляжыш ты, мой дружа,
Ў магіле ляжыш,
А мне ўсё здаецца,
Што ў вочы глядзіш.

Глядзіш і пытаеш:
Ці хутка, дружок,
Мы вернемся з фронту
У родны куток?

Ці хутка мазолі
З абмуляных ног
Залечыць нам родных
Аселіц мурог?

На беразе Шпрэе
Упаў ты на жвір,
Слова не ўчуўшы
Жаданага «МІР!».

Дарма недзе думалі
Жонка з сынком:
«А можа, памылку
Зрабіў ваенком?»

Ляжыш ты, мой дружа,
Каторы гадок.
Эх, каб з зямелькі
Падняцца ты мог!..

Ужо не дыміцца
Твая Беларусь,
У школу ўжо ходзіць
Сынок твой Пятрусь.

*1947 г.*

## БАЦЬКА

Быў у мяне бацька сівы-сівы,
Называўся ён бядняк Арцём.
Змалку дзён і да сырой магілы
Усё змагаўся з горасным жыццём.
Грабаром пачаў ён пры цары «кар'еру»,
«Вызваліцелям» ў Польшчы прадаўжаў,
А калі прыйшлі фашысты-звеpы,
Перад імі зноў жа не дрыжаў.
Помню, калі быў я ў партызанах,
Сувязнымі бацька перадаў:
«Сын, я чуў, што ляжыш у ранах,
Як падлечыш — маху каб не даў!
Пасылаю я табе гранату.
Падарунка, сыне, не змарнуй,
Бо граната — гэта сэрца таты,
Гнеў пякучы ты у ёй адчуй».
І калі б мой бацька ўстаў з магілы
Ён сказаў бы: «Сынку, не марудзь!
Акупанта біў ты з усёй сілы,
На будоўлях зараз першым будзь».

*1948 г.*

## МАЛАДОЙ НАСТАЎНІЦЫ

Калі ты будзеш першы раз
Даваць урокі ў школе,
Ты не забудзь прынесці ў клас
Калоссяў спелых з поля.

Каб дзеткі, гледзячы на іх,
Вучыліся, як трэба
Любіць шум ніваў залатых —
Сваёй Радзімы неба.

Каб каласы для іх былі
Прывабаю, натхненнем,
Каб маладое на палі
З іх выйшла папаўненне.

*1948 г.*

## ЯК ТАВАРЫ ДАМІНІКУ ЗБІЛІ ПРОСТА З ПАНТАЛЫКУ

Магазінныя паліцы
Напаўняюць, як з крыніцы:
Футры, хусткі, драп, галёшы,
На сукенкі шоўк харошы.
Дамініка брала, брала —
Аж ёй грошай стала мала.
У суседзяў сотак пару
Захапіла на тавары...
Магазінныя ж паліцы
Напаўняюць, як з крыніцы:
То батысты, то паркалі...
Дадаюць кабеце жалю:
«І навошта ўчора брала,
А да сёння не чакала?»
А што хлеба ў Дамінікі —
Поўных тры мяхі вялікіх.
Нахапала для запасу:
«Мо не будзе хлеба часам?»
А назаўтра, як з крыніцы,
Поўна булак на паліцы...
Так тавары Дамініку
Збілі проста з панталыку.

*1947 г.*

## КАСАВІЦА

Ідуць, ідуць за радам рад
Касцы на касавіцу.
І ў косах яркая зара
Не-не дый заіскрыцца.
Вітае іх калгасны луг
Травой сачыстай, роснай...
— А ну пайшлі, спрабуем, друг,
Наколькі косы востры...
Кладзецца ўмелаю рукой
У роўныя пракосы
Трава, а з ёю думак рой
Аб перажытым лёсе,
Калі абшарніцкі цівун
Дзяліў на «часць» капіцу,
А селянін, бядняк-гарун,
Лазой згінаўся ніцай...
Сягоння вольныя гучаць
Тут песні у прасторы.
Стагі калгасныя стаяць
Высока, нібы горы.

*1/VI 1950 г.*

## МАСКВА З НАМІ

*Прысвячаецца партызану Дзмітруку Аляксею — арганізатару атрадаў імя Чарнака і імя Фрунзе пад Брэстам, які загінуў у 1942 годзе ў барацьбе з нямецкімі захопнікамі*

*I*

Масква, Масква, мая ты маці,
У хвіліну гора і тугі
Умела ты адна натхняці
Крышыць няволі ланцугі.
І калі мне пятлю накінуць
Лаўчыўся недзе люты кат,
Я ўспамінаў цябе — цвярдыню,
І ты ў душу ўлівала гарт.
І як паветра не хапала
Дыхнуць адзін, здаецца, раз,
Ты звон курантаў пасылала,
На бой адвагу падымала,
Мацнелі сілы у сотні раз.
Зноў пачынала сэрца біцца
Усё мацней, мацней, мацней...
Ты мне была жыцця крыніцай,
Крыніцай радасных надзей.

*II*

Я помню, рушылі бандыты...
На сэрцы смутак і жарства...
Алёша, куляю прабіты,
На нашы рукі паў у бітве
І ўсё ж сказаў: «Жыве Масква!
Яшчэ мы, хлопцы, не прапалі,
Яшчэ ў Маскве куранты б'юць...»
І мы рванулі, як навала,
На іх штыкі, на кулямёт,
Блакаду знішчылі, прарвалі,
Бо клічам тым загартавалі
Мы сэрцы ў ярасны палёт.

*III*

Масква, Масква, мая ты маці!
Нам, дзецям гора і пакут,
Ты памагла паноў прагнаці
І нас ты вызваліла з пут.
І Брэст наш, горад мужнай славы,
Навекі здружаны з Масквой,
Наказ яе ў баю крывавым
Выконваў горда, як герой.
І не знайсці цяпер нам хаты
Над Бугам, Нёманам-ракой,
Дзе беларусы дум крылатых
Не спалучалі б з Масквой.

І Беларусь, як маці дочку,
Ты навучаеш у жыцці,
І, нібы кветка у садочку,
Яна змагла ўжо расцвісці.
Яна цяпер прасторным шляхам,
Не супыніўшыся нідзе,
З гіганцкім волатным размахам
Да новых перамог ідзе.

*Брэст, 1950 г.*

## БРЭСТ

Паглядзі на Брэст над Бугам,
Колькі хараства!
Абнялі яго два друга —
Пабрацімы два:

Мухавец срабрыста-сіні,
Буг, як сталь, сівы,
Гартавалі ў злой гадзіне
Дух наш баявы.

Зноў будуемся мы горда...
На старой сцяне
Нехта надпіс вывеў цвёрда:
«Мір! Не быць вайне!»

Праз гранічныя вароты
Цягнікі ідуць...
У жыццё, мой горад горды,
Табе светлы пуць!

*1951 г.*

## УЗНАГАРОДА

Я сягоння ўзнагароджаны,
Нібы зноў на свет народжаны,
Не таму, што ганаруся...
Сын лясістай Беларусі,

Паляшук я дый маўмыра,
Адно праўда, сэрцам шчырым
Быў заўсёды я з народам
І ў прыгодах і ў нягодах,

Патрашыў з ім панству бруха,
Біў фашыста аж з-за вуха,
Сустракаў байцоў чырвоных
Песняй — радасцю стазвоннай,

Як было народу цяжка,
Падпрагаўся, як мурашка,
Каб цягнуць наш воз па грудзе...
Дык жа так рабілі ї людзі.

З імі сэрцам я знітован,
Імі ўскормлен, аблюбован.
І хто даў мне зорку тую,
Маю радасць залатую,

Той народа сэрца змерыў —
Ўзнагароду мне даверыў,
Якой варты — верце песні! —
Людзі нашага Палесся.

*1951 г.*

## ПАГЛЯНЬ НА БУГ

Паглянь на Буг, мой любы друг,
Буг шмат чаго гавора.
Тут Гітлер лез, пакуль не счэз,
Каб край заліць наш горам.
Ні гром гармат, ні куляў град
Не мог спыніць напасці,
Сляпіцай лез галаварэз
Па нашу долю й шчасце.
Ды хоць ступіў ён тут нагой,
Але прайшоў мо соты:
На абаронцу аднаго
Лягло фашыстаў — роты.
За Бугам лес, за Бугам лог,
Дый там спакой абманны,
Там кожны куст, там кожны стог
Рабіўся партызанам.
Таму фашыст дрыжаў, як ліст,
Калі залез глыбока.
Яму савы быў страшан свіст
І нават бусла клёкат.
Папоўз назад фашысцкі гад
Да ўспененага Буга,—
Крывавы след, бо хіб-хрыбет
Зламан быў у звяругі.

**Паглянь на Буг, мой любы друг,**
**І сёння ён гавора:**
**— Няшчасны той, які пятой**
**На Буг наш ступіць, вораг.**

*Брэст, 29/III 1951 г.*

## МІНСКІ ЗУБР

Гаварылі пра зубра
Хлопцы, маладзіцы:
— Паглядзець бы нам пара,
Што за ён, з сталіцы!

— Можа, сілаю мядзведзь,
Ды пражора з ежы?
— Аднаго б хаця нам мець
Побліз Белавежы.

— Мо з зубром бы падружыў
З пушчы ён, з каторым?
— Мо абжыўся б тут і жыў
У лясной прасторы?

— А каб нашых абучыў,
Звярыну такую,
Шмат бы працы аблягчыў
На карысць людскую.—

Жарты жартамі, ды вось
З роднае сталіцы
Зубр-мінчак прыбыў, як госць,
К нам аж да граніцы.

Стаў, павер, гара нібы,
Аж прыцемрыў ранак.
Колы тыя, як дубы,
Гнутыя ў баранак.

Ён і ўшыркі, будзь здароў!
Ён і ўдоўж як трэба!
А завёў матор — зароў,
Як віхура з неба.

Аж дзівуе дзед стары,
Стаўшы сярод вёскі:
— Белавежскія зубры
Гэтаму — ў падноскі.

*1952 г.*

## БРЭСЦКІЯ ЦЯГНІКІ

Гудуць у Брэсце ўсцяж гудкі,—
Стукочуць мерна цягнікі...
На Ўсход, на Захад і ў бакі —
Усё цягнікі ды цягнікі!

Вязуць палескі стройны лес
На Волгу — на будоўлі ГЭС,
Адтуль — жалезнае ліццё:
Мацуйся, вольнае жыццё!

Вязуць усходні наш прывет
Братам, што твораць новы свет.
Жывуць без бекаў, без сапег...

I сэрца радуе ваш бег,
Пасланцы міру — цягнікі,
Што шле мой Брэст ва ўсе бакі.

*11/X 1952 г.*

# ДРУЖБА

## I

### НАД СТАХОДАМ

Куды паглянь — усюды дзоты,
Сляды крывавае вайны.
Жырэлі тут народным потам
Цары, вільгельмы і паны.

А зараз паглядзі на поле,
На калектыўны сенакос,—
Якая шыр, што за раздолле!
Няма ні межаў, ні палос.

Калгасны люд працуе шчыра
На тых палях, дзе правіў пан,
Для справы гонару і міру
Ўзнімае трактарам дзірван.

Тут праца чэсная, святая
Кіпіць удзень і уначы,
Сваім размахам выбівае
У падпальшчыкаў вайны мячы.

II

## *БРАТ ДА БРАТА*

Свяцілі мне «Вікна» твае, Украіна,
Калі зацямнялася ў Вільні хаціна.
Святло тое слаў нам усходні наш друг —
Пісаў, не кідаў я пяра тады з рук.
Пісаў я аб тым, як жывуць беларусы
Пад цяжкім прыгнётам, пад панскім прымусам,
Як секвестратар па клецях гуляе,
Як стрэхі драпежны арол абдзірае.

Пісаў я — і бачылі слёзныя вочы,
Як гнуць свае спіны сяляне, рабочы,
Як пот на зямлю з іх крываві цячэ,
Што глебу, здаецца, праб'е, прапячэ...

Мінуўся злы час той, браты з Украіны!
З палёгкай ўздыхнулі бары і даліны,
Як разам мы з рускім вялікім народам
Зноў здабылі сабе чэсць і свабоду.

Дык разам хай грымне братэрская песня
Пра вашу Валынь і пра наша Палессе,
Як вольна жыве тут наш Янка, ваш Грыц
Пад промнямі ясных Крамлёўскіх зарніц.

*III*

## *СКЛАДАЮ ПАДЗЯКУ*

Хто не знаў у нас Тараса,
Франка, Украінкі!
Мы чыталі па начах
Кніжак іх «сторінкі».

І «Кабзар» не прамінуў
Нашай ціхай хаты,
Маё сэрца закрануў,
У ім пакінуў свята.

Я пачаў тады складаць
Вершы і быліны...
Вось чаму на іх пячаць
Песень Украіны.

*Калгас «Першае мая» на Валыні,*
*1952 г.*

## У БРЭСЦЕ

Над Брэстам ноч навісла хмура,
Але кругом гарадь агні,
І я праходжу каля мура,
Што нагадаў мне дні вайны:

Прабоін цэментныя латы —
Баёў і ўстойлівасці знак...
А поруч новы дом — крылаты —
Арлінай вышыні дасяг...

О, Брэст мой горды, мужны, родны,
Прыгожа-казачны ўначы!
Я па табе іду свабодна,
І я клянуся берагчы

Твае будоўлі і прысады,
Твае дзіцячыя сады,
Гудкоў прызыўныя раскаты
І труб фабрычных мірны дым

Ад усялякае напасці.
Як трэ, аддам сваё жыццё,
Жыло каб ў радасці і шчасці
Маё маленькае дзіцё,

Жыло, не ведаючы мукі,
Ні гора, ні цяжкіх клапот,
Каб па тваіх прыгожых вулках
Больш не ступаў фашысцкі бот.

*1952 г.*

## ЯНКУ КУПАЛУ

*Да дзесяцігоддзя з дня смерці*

Ты памёр, наш пясняр, ў час жуды,
Калі родны твой край беларускі
Кат хацеў захапіць назаўжды,
Каб завесці парадак свой прускі.
Нашы хлопцы ў цёмным бары,
Прачытаўшы твой верш
«Партызаны»,
Ў бой ішлі —
ад зары да зары
Рэзаць гітлерцаў,
фрыцаў паганых.
Як смакталі ў балоце сляды
Мы, бывала, ў час цяжкай пакуты,
Прыгадаліся словы тады:
«Хай вада стане кату атрутай!»
Як за вёску вялі люты бой,
За садок ці сялянскую хату,
Паўтаралі святы праклён твой:
«Няхай яблыка стане гранатай!»
У сэрцах неслі цябе праз вайну,
Твае словы для нас былі гімнам,
Нат ў паходныя песні ўплялі
Тваё велічна-слаўнае імя.

І цяпер, калі родны наш край
Да камуны йдзе бурна, кіпуча,
Удзячнасць нашага сэрца прымай,
Наш народны паэт неўміручы!

*1952 г.*

## ЗАБЫЎ ГОРА АПАНАС, УСТУПІЎШЫ У КАЛГАС

Апанас цяпер не той,
Што пад панскай быў пятой,
Праліваў салёны пот
На паноў за марны злот.

Уступіў наш Апанас
Ў сорак шостым у калгас.
І калгас яго зрабіў,
Што ён век такім не быў.

Электрычнасць ззяе — рай!
Хоць іголачкі збірай.
На стале абрус паслаfны,
Ложак нікеліраваны,

Радыёла, патэфон,—
Пан не меў, што мае ён.
Загляні к яму ў сусек,
Падзівіся, чалавек.

Каб раней хлеб да каляд —
Чалавек таму б быў рад.
А цяпер у Апанаса
Пірагі ажно да спаса,

Хлеб заўсёды пад рукой,
Не пазычаны, а свой.
А галоўнае — пашана,
Што ён працаю старанная

Як найлепшы палявод
Ураджай дае штогод.
Апанасе, Апанасе,
Бач, як добра у калгасе.

*1953 г.*

## КАПАЦЬ БУЛЬБУ ТРЭБА ДРУЖНА: ЙДЗЕ ЗІМА НА НЕДАЛУЖНЫХ

У калгасе бульбы мора,
Толькі з копкаю тут гора.
Сабіраецца з калгаса
Жанчын дзесяць добрым часам;
У дзень па пуду накапаюць
І ў радочках пазяхаюць.
А другія цэлы месяц
Знаюць — соткі свае «месяць»
І чакаюць, каб марозік:
«Тады будзе бульбы возік.
Старшыня і брыгадзіры
Пачнуць лапіць свае «дзіры»
І працэнт дадуць за копку —
Дамоў — мех, ў калгас — каробку,
Як было ў мінулым годзе...»
Так было, цяпер жа годзе!
Трэба ведаць нашым людзям:
Прыбраць ў пору — усім будзе:
І дзяржаве, і калгасу,
Грыцу, Зосі, Апанасу,
А згнаіць ці замарозіць —
Гэта значыць сабе шкодзіць!

*1953 г.*

## ЖАДАННЕ

Нямала паэтаў
Такіх завялося,
Якія не знаюць,
Расце як калоссе.

У пісанні у іх
Няма праўды на зерне:
Чытаеш і проста
Ад пусташы верне.

А крытык расхваліць
Такога «паэта»:
«Вось гэта паэт
На ўсю нашу планету!»

Паэт я, магчыма,
Не так знамяніты,
Але на вяку
Шмат было пеhavaжыта.

Цану сваім творам
Па тым толькі знаю,
Калі іх працоўныя
Людзі чытаюць.

Для іх я пішу і
Век буду пісаці,
Народ маёй дочцы
Разоў ў сто адплаціць.

Пасаг хай дае
Не грашыма, не полем,
Хай скажа: «Паэт быў
Твой бацька Мікола!»

Такая мне плата
Больш, чым міліёны,
Я толькі прызнаннем
Народным натхнёны.

А ў час, як дзяржава
Дачцэ дасць асвету,
Я буду удзячны,
Здаволены гэтым.

*Брэст, 24/VII 1953 г.*

## НАПОМНІМ...

Зноў зіма. А колькі іх мінула —
Марозных, лютых і сняжных,
З сваім сіберным страшным гулам,
З кандальным звонам для жывых.
Ды асабліва ўлезла ў косці
Мне тая гадаўка-зіма,
Калі няпрошанай у госці
Прыйшла фашысцкая чума.
Калі народ непад'ярэмны
Глуміў фашыст як дзень, так ноч...
Ды не прапалі мы. Дарэмна! —
Нам, вораг, згубы не прароч!
Зноў зіма. Іх шмат мінула,—
Марозных, лютых і сняжных...
Зноў страшаць нас ваенным гулам
Палітыканы з-за мяжы.
Хай лепш маўчаць! Пазналі зімы
У часы Айчыннае вайны...
Забылі? Дык напомнім ім мы —
Краіны мірнае сыны.

*15/XII 1954 г.*

## СТАРАЯ ХАЦІНА

*Прысвячаецца вядомаму рэвалюцыянеру 1905 года на Пружаншчыне адвакату Мікусу*

Мо ў Пружаны давядзецца
Калі з Брэста ехаць, браце,—
Не забудзь там прыглядзецца
Каля Шэняў адной хаце.
Хоць яна ў зямлі па вокны,
Не красуе ў вокнах фікус,
Барацьбы падпольнай кросны
Ткаў у ёй калісьці Мікус.
Гвай, Шышко, затым Сахарка
(Лепшы друг яго сардэчны)
У Архангельск, на Ігарку
Былі сасланы навечна.
Тая праўда, што ахвярна
Яны сеялі ў народзе,
Залунала светазарна:
К камунізму з ёй падходзім.
Ў гістарычную хвіліну
Ўспамянём мы чалавека,
Па сабе які пакінуў
След, якім ідзём паўвека.

*Брэст, 22/XII 1955 г.*

## СІНІЯ ВОЧЫ

Сінія вочы, сінія вочы,
Вас я ў магілу браці не хачу:
Там пад сырою цяжкай зямлёю
Радасць не блісне чыстай слязою.
Пакінуць вас хачу наверсе зямліцы,
Дзе праца бурліць і жыццё б'е крыніцай.
Сябры, не шкадуйце, як лягу ў магілу,—
Шчыра галубце
дачаньку мілу:
Яе ж вачаняты — мае, у краплiцу,
Купаныя ў той жа цудоўнай крыніцы,
Палюбяць жыццё, як хацелась паэту,
Сінія вочы —
знайце пра гэта.
Сінія вочы, сінія вочы...
Я паміраці сёння не хачу,
Смерць калі ж прыйдзе, ведайце, людзі,
Засім змагацца, дужацца будзе.
Бо сінія вочы дачуркі, паверце,
Мне адагнацца памогуць ад смерці...

*Брэст, 1/VI 1955 г.*

З цыкла вершаў «ТАБЕ»

* * *

Можа, хто Табе пасмее гаварыць,
Што я ўжо не такі, якім быў ў час няволі,
Ты адкажы: «Пакінь мяне дурыць,
Не здрадзіць партыі, народу ён ніколі.

Ён бачыў ўсё — і гора і прыгнёт,
Стаяў ён на краю смяртэльнай ямы,
Стаяў ён за народ, збярог яго народ,
Таму да смерці будзе ён яму аддалы».

Я знаю, не паверыш ты такім «сябрам»,
Якія утапілі б мяне ў ложцы,
Але вазьмі мой першы зборнік, там
Ты прачытай тры словы на аблоўцы *

І знай: паэт не ўтоіць сваіх дум,
Яго душа і сэрца — на паперы,
Не кланяўся ніколі я ідэям дзвюм,
Мая паэзія — ў камуну дзверы.

*1955 г.*

---

* Зборнік «Ад шчырага сэрца». Мінск, 1947 г.

* * *

Калі мне ў душу, як ў бярлогу,
Украдаецца сум, цяжкі, круты,
Цябе я клічу на падмогу,
І заўсягды прыходзіш ты.

Такая ж шчырая, прастая,
Да скону верна аднаму,
Таму, хто тайну тваю знае,
Дапамагаеш жыць яму.

*Брэст, 10/XII 1955 г.*

## МНЕ ЗДАЕЦЦА

Мне здаецца, як чытаеш
Нумар брэсцкае «Зары»,
На старонках ты шукаеш,
Можа, я загаварыў
    Сваім вершыкам ці песняй
    У гэтым нумары з табой.
    Не знаходзіш, дык балесна
    Твой парушыцца спакой.
А калі знаходзіш слова
Пра сябе, пра родны кут,
Дык адразу ты гатова
Мяне ўбачыць зноўку тут,
    Дзе з табою ў час кахання
    Сустракаўся часта я,
    І нас цешыла да рання
    Муза простая мая.
Мне здаецца, як чытаеш
Нумар нашае «Зары»,
Аба мне ты памятаеш,
Бо мы верныя сябры.

*23/I 1955 г.*

## МАЯ ЛЮБОЎ

Паўвека хутка каляндар
Адзначыць мне з дня нараджэння...
А колькі ў сэрцы светлых мар,
А колькі радасных імкненняў?!

Яны крыніцай будуць біць,
Радкамі лягуць на паперы,
Бо мне хвілін тых не забыць,
Калі ў любоў тваю паверыў.

Хай не было яе у нас
Такой кіпучай, як бывае,
Ды ўсё ж той промень не пагас,
Ён маю душу саграває.

Можа, ў нас то й не любоў,
Сяброўства шчырае мо гэта?
Ды калі цепліць яно кроў,
Дык гэта шчасце для паэта.

*1956 г.*

## ТАБЕ

Перабраў я ў сваёй галаве
Усіх людзей, каму быў вінаваты,—
Ды найбольшай павагі ў мяне
Заслужыла, сяброўка, адна ты.
        Прад табой я ў вялікім даўгу
        За твой сум, за бяссонныя ночы...
        Я, як скарб, у душы берагу
        Погляд твой, калісь шчыры дзявочы.
Веру, ты не забыла мяне,
Гэтак сэрца чамусьці гавора,
Ужо яго больш ніхто не кране,
Ты адна ў мяне радасць... і гора.

*Брэст, 1956 г.*

# МІНІЯЦЮРЫ

* * *

Як сумленне не прапала,—
Будзе жыці чалавек.
Для жыцця здароўя мала...
Сустракаў такіх калек:
Моцны лоб і спраўна сэрца,
А сумлення ўжо няма.
На мой розум, так здаецца,
Гэта — горай, чым чума.

* * *

Заручан з праўдаю да скону,
Любоўю да жыцця гарыць,
І ты яму давай мільёны,—
Сардэчных дум не утаіць.

Паэт сапраўдны — гэта воін,
Паспрабуй душу яго змер.
Яго народ наш удастоіў:
«Душы людское — інжынер».

* * *

Прайшоў, як кажуць, цэлы свет,
Ад дому ж не адбіўся,—

Тады сапраўдны ты паэт,
Паэтам нарадзіўся.
Дарогай праўды ты ішоў,
Сумлення не забрудзіў
І шчасце там сваё знайшоў,
Скуль выправіўся ў людзі.

*Брэст, 12/III 1956 г.*

## СТАРАСЦЬ

Яна прыклыпае з кіёчкам,
З гарбом на плечах на худых,
І скажа: «Кідай вершы ўпрочкі,
Паэзія — для маладых.

А ты папробуй майго хлеба,
Які ён чэрствы і сухі,
Яго не многа, праўда, трэба,—
Наймайся, брат, у пастухі».

Я адкажу ёй: «Слухай, душка,
Хаця з мяне благі пастух,
Ды сваім вершам і частушкай
З цябе я выматаю дух.

— Табе, карга, не дастуміцца
Шчэ год 120 да мяне,
Не лезь у шкоду! Годзе кпіцца!»
І старасць — ведзьмай шугане.

*25/I 1956 г.*

## МОДНЫЯ ПАДЗЕНШЧЫКІ

Піша вершаў ён пуды
Пра шык моды, грацыі,
Пасылае іх туды,
Робяць дзе прыяцелі.

Надрукуе ён што хоч
З іхняй дапамогаю,
Пераробіць дзень у ноч,
У свінню бязрогую.

І выходзіць у яго
«Творах» ўсё навыварат.
Хваліць часта ён таго,
Хто сапраўдны выварат.

І друкуецца заўжды
Пісаніна «мудрая».
Колькі ў ёй бяды, вады
У корані паскуднае.

*1956 г.*

## БЫЦЬ ПАЭТАМ

Быць паэтам — то не вельмі лёгка:
Сэрцам трэба многае адчуць,
Каб радок ніводзін не быў крохкім,
А каб важкім быў, жывым, як ртуць.

Каб пранік у самыя глыбіні
Душ, не верачь што твайму пяру
І смяюцца: «Верш стварыць Засіму —
Гэта жабе ўзлезці на гару».

Быць паэтам — то не вельмі лёгка:
У сэрца трэба ўлезці, сэрца трэ аддаць.
Ды якое шчасце і палёгка,
Калі любяць верш твой прачытаць!

*Брэст, 16/IX 1956 г.*

## МАЯ ДАЧУРКА

Мая дачурка мілая,—
Блакіт — не вачаняты,
Гуллівая, шумлівая,
Ажно трасецца хата.
То дай ёй ляльку ў шапачцы,
То кніжачку, пацёркі.
Яна крычыць: «Шчэ, татачка,
Знімі мне з неба зорку!
Злаві яшчэ вавёрачку,
Лісічку ў лесе, зайку...
Як каткудахча курачка?
І раскажы мне байку!
Куды падзеліся хмарачкі?
Чаго маланка ззяе?»
І я сваёй Тамарачцы
Пра ўсё апавядаю.
І слухае, і рухае
Мяне за твар Тамурка.
А я трублю у вуха ёй:
«Дачуранька, дачурка!»

*1956 г.*

## ВЕРШ АБ ПРУЖАНЕ

Іду я Пружанай ў задуме глыбокай.
Усё чыста знаёмае мне тут навокал:
І кожны завулак, і кожная хатка
З пары той, як быў я маленькім дзіцяткам.
Тут бацька мне першыя ў жыцці цукеркі
Купіў у старога свайго сябра Бэркі.
І першую ў жыцці купіў мне тут булку,
Якую я еў у Пружанскім завулку...

Ляцелі гады, нібы дзікія коні,
Крывёй паліваліся родныя гоні...
Хадзіў па Пружане з пілою, сякерай,
Абедаў часценька у панства ля дзвераў...
Я бачыў Пружану той чорнай зімою,
Калі люд стагнаў пад фашысцкай пятою.
Глядзеў — і мне сэрца шчымела балюча,
Як немец людзей на Пружаншчыне мучыў.

Я клікаў змагацца за волю народа,
І вось прамінулі праклятыя годы.
Іду па Пружане я вольны, як сокал,
Усміхаецца ўсё мне сягоння навокал:
Вуліцы, школы, клёны, каштаны
І люд мой калгасны, шчаслівы, убраны.

Пружана, Пружана, любіма мясціна!
Мяне ты вітаеш, як роднага сына,
І дзе ні жыву, я табой ганаруся —
Дужэйшым раблюся, табой як прайдуся.
Радзіму той любіць, хто любіць свой кут,
У якім пеажыта шмат светлых мінут...

*1957 г.*

## ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

Чые цябе рукі насілі?
Хто ў турмах гадамі сядзеў?
З чыёю ты мужнасцю, сілай
У неба, як сокал, ўзляцеў?

Я ўсіх паімённа не знаю
Людзей, што ўздымалі цябе,
Што йшлі за жыццё свайго краю
Пад сцягам КПЗБ.

Ды знаю адно: давялося
Прайсці нам нямала шляхоў,
Каб сонца для нас разлілося,
Каб шчасце кіпела наўкол.

*27/XI 1957 г.*

## НАШЫ СУСЕДЗІ

На скверах Брэста чутна рэха
Чужой гаворкі — родных слоў.
Палякаў, немцаў, венграў, чэхаў,
Радзіма просіць к нам дамоў.

Суседзі едуць за навукай,
Перадаём ім вопыт свой,
І нам працягнутыя рукі
Мы паціскаем з цеплынёй.

Ад нас вязуць дамоў суседзі,
Да нас шчэ большую любоў...
Хто край савецкі раз угледзеў,—
Захоча яго ўбачыць зноў.

*1957 г.*

## У ЧАС РОЗДУМУ

Мо не стану пісаць болей вершаў,
У пісьменнікаў з'ява такая не перша:
Ці лепш не напіша, ці выдыхся, можа,
Ці лішне пяром бюракратаў ўстрывожыў,
Якія у нас яшчэ маюцца часам
І жыць вельмі ўмеюць яны з выкрутасам.
Пісьменнік што думае, тое і кажа,
Яго не зламала навала уража,
А зараз у роднай краіне баяцца?
Пісаць трэба праўду, з няпраўдай змагацца.
Бо праўда заўсёды зло пераможа
І крочыць [redacted] Камуне народу паможа.

*Брэст, 16/V 1957 г.*

# ЗМЕСТ

**Засім М.**

Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1973.
160 с. 5000 экз. 25 к.

Кніга выбраных вершаў Міколы Засіма — другое пасмяротнае выданне твораў паэта. Сюды ўвайшлі вершы, напісаныя аўтарам з пачатку яго літаратурнай дзейнасці да апошніх дзён.

Асобнае месца ў зборніку займаюць вершы ваеннага часу, а таксама з жыцця былой Заходняй Беларусі. Творчасць самабытнага, арыгінальнага паэта знойдзе шырокі водгук у сэрцах чытачоў.

З $\frac{0743\text{-}109}{М\ 302(05)\text{-}73}$ 31-73 Бел. 2
336

На белорусском языке. Николай Артемович Засим. Стихи.

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар П. Прыходзька. Франтыспіс В. Тарасава. Афармленне В. Юрчанкі. Мастацкі рэдактар Л. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Папкова. Карэктар Я. Харко.

АТ 14167. Здадзена ў набор 5/I 1973 г. Падп. да друку 22/V 1973 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк № 1. Ум. друк. арк. 5,0. Ул.-выд. арк. 3,91. Зак. 17.
Цана 25 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.